Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск
7 - 13 лютага 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
№6 (94)



ТЭЛЕВІЗАР ЗА 24 ТЫСЯЧЫ!

2-ая старонка.

## Праблема

# Людзі патрабуюць аўтара

***МЯДЗЕЛ. 30 студзеня жыхары вёскі Буйкі і мясцовыя школьнікі выйшлі на абарону бярозаў, што растуць абапал дарогі Буйкі- Сырмеж.***

Дарожнікі, якія добраўпарадкоўваюць дарогу Маладзечна- Свір, пачалі з карэннем вырываць бярозы. Людзі трывалі, калі знішчалі бярозы ў ваколіцы, але як дайшла справа да вёскі, цярпенне скончылася. Гэтыя бярозы садзілі школьнікі 25 гадоў таму, цяпер жа дарожнікі сцвярджаюць, што ў іх такі праект. Людзі запатрабавалі аўтара, бо шырыня дарогі дазваляе пакінуць бярозы. Інтэнсіўнасць руху на гэтай "трасе" мясцовага значэння вельмі нізкая.

У экалагічнай акцыі пратэсту прыняло ўдзел каля 120 чалавек. На месца канфлікту быў выкліканы начальнік раённай інспекцыі па экалогіі, галоўны інжынер будаўніцтва дарогі, карэспандэнт "Нарачанскай зары". Да вырашэння канфлікту работы прыпынены. Незразумелую пазіцыю заняла мясцовая ўлада, але жыхары поўныя рашучасці, каб змагацца за адметнасць большасці беларускіх дарог— бярозы.

*Барнард ПАКУЛЬНІЦКІ.*

# Не так страшны Захад, калі не шукаць там ворагаў

***АШМЯНЫ. На мінулым тыдні прэзідэнтам дадзена згода на акцыянаванне кавава-цыкорнай фабрыкі з удзелам амерыканскай фірмы "Біэла". Дакументы па стварэнні сумеснага прадпрыемства "Белкава" былі падрыхтаваныя яшчэ да верасня мінулага года і атрымалі адабрэнне Кабінета Міністраў, прайшлі экспертызу ў Нацыянальным банку і Міністэрстве прадпрымальніцтва і інвестыцый.***

Устаноўчая канферэнцыя калектыву Ашмянскай кавава-цыкорнай фабрыкі, створанай на базе аднаго з філіялаў прадпрыемства, прызначана на 14 лютага. Доля замежнага прадпрыемства ў новым СП складзе 50%— крыху менш за 3 млрд. рублёў, 25 % акцый дзяржава рэзервуе за сабой, 25% выкупіць калектыў.

Сёння фабрыка спецыялізуецца на выпуску натуральнай смажанай кавы ў зернях і кававых пакетыкаў— адно з самых устойлівых прадпрыемстваў у рэгіёне. Нягледзячы на тое, што ў выніку рэзкага павелічэння імпарту натуральнай і распушчальнай кавы вытворчасць кававых напояў на прадпрыемстве скарацілася больш чым у 10 разоў, кіраўніцтва фабрыкі хутка адрэагавала на рыначную кан'юнктуру, пераарыентаваўшы вытворчасць на выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі.

Толькі вытворчасць натуральнай кавы за апошнія гады павялічылася на фабрыцы ў 17 разоў. Гэта стала магчымым дзякуючы шматгадоваму супрацоўніцтву з партнёрам і пастаўшчыком сыравіны— амерыканскай фірмай "Біэла", якая дапамагла таксама мадэрнізаваць фабрыку.

*Аддзел інфармацыі.*

## Пра надоі

# У Кучках недапялі да тысячы

***МАЛАДЗЕЧНА. Штогод у раёне зніжаюцца вытворчыя паказчыкі непакутай рэформамі сельскай гаспадаркі. Прыпынімся на некаторых статыстычных дадзеных.***

Рэалізацыя за 1996 год жывёлы і птушкі ў жывой вазе была роўная 7563 т. (у 1994— 9703 т.), а малака 26853 т. (у 1994 г.— 34268 т.). На 14 з 72 фермаў сярэднегадавы надой ад каровы летась склаў менш за 1500 кг, а на ферме "Кучкі" калгаса "Маркава", дзе пазалетась надойвалі 3022 кг, цяпер дацягнулі толькі да 995 кг. Не лепшае становішча і на астатніх фермах раёна. Калі ў 1994 годзе тры з іх давалі надой звыш за 4000 кг, то цяпер столькі ж далі ад каровы крыху больш за 3000 кг (астатнія яшчэ менш).

Такое становішча ў жывёлагадоўлі ўскладнена адтокам добрай часткі яе прадукцыі за межы Беларусі ў абмен за давальчую сыравіну. Гэта стварае хранічны дэфіцыт харчовых прадуктаў, які "ліквідуецца" павышэннем рознічных цэн. І прычына ўсяго не ў нейкіх цёмных сілах, што садзейнічаюць падрыву нашай гаспадаркі, а ў аб'ектыўных эканамічных законах.

*Алесь ЦАДКО.*

## Навіны

### Батлейка з Ракава

***ВАЛОЖЫН. Адрадзіць перасоўны тэатр-батлейку вырашылі ў Ракаве.***

Дэбютавалі з "Батлейкай" выхаванцы прыходскай школы, што адчынена пры Ракаўскай Спаса-Праабражэнскай царкве. На калядны дзеткі выступалі са сцэнкамі, песнямі рэлігійнага зместу.

*Уладзімір МАШКЕВІЧ.*

### Аматары ці прафесіяналы?

***АШМЯНЫ. Больш за 10 аматарскіх аб'яднанняў дзейнічаюць у раёне. Прапісаны яны да Дамоў культуры.***

Адно са старэйшых— "Спадчына" ў Гальчунах. Дзесяць гадоў тут адраджаюць мясцовую культуру, захоўваюць і перадаюць дзецям звычаі, традыцыі. Найбольш распаўсюджаная назва "Ліра"— пры Мур-Ашмянскім ЦДК, Гальшанскай бібліятэцы. А ёсць такія клубы, як "Гамбіт", "Сям'я". У аматарскіх аб'яднаннях людзі творчыя. Танцуюць, спяваюць не горш за прафесіяналаў.

*Аддзел інфармацыі.*

### Даўгінаўскі юбілей

***ВІЛЕЙКА. Даўгінаўскай сярэдняй школе— 135 гадоў. Калі і могуць якія школы рэгіёна пахваліцца такім сталым узростам— дык адзінкі.***

Узрост школы бярэ пачатак адліку ад першага года існавання царкоўна-прыходскай школы, але даўгінаўцы бяруць пад увагу і тое, што ў мястэчку доўгі час працавалі хедэр і ешыбот -школы для яўрэйскіх дзетак. Гэта таксама гісторыя сённяшняй сярэдняй школы.

Самае галоўнае багацце для навучальнай установы— яе выпускнікі. У хедэры і ешыботе вучыўся Яфім Плаўнік (Змітрок Бядуля), сярэбраной медалісткай скончыла школу пані Гойцэра— былы міністр аховы здароўя Ізраіля, скончыў школу прафесар Вроцлаўскага ўніверсітэта пан Сяліцкі. Менавіта ён напісаў некалькі кніг аб гісторыі свайго роднага мястэчка, Крывічоў і Будслава. Прафесар і сёння перапісваецца з аднакласніцай Марыяй Іосіфаўнай Петражыцкай, мясцовай жыхаркай, выпускніцай 1937 года.

Сярод выпускнікоў, а іх у пасляваенны час было больш за 2 тысячы, дактары медыцынскіх навук, прарэктар Віцебскага тэхналагічнага інстытута, дыпламаты. З 30 настаўнікаў Даўгінаўскай школы— 18 яе былых выпускнікоў.

Літаральна па зярнятках збіралася гісторыя мястэчка, школы. Напрыклад, у канцы 19 стагоддзя ў прыходскай школе вучылася 50 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак. Да нас дайшло прозвішча ўсімі любімага настаўніка Антановіча. Захаваўся загад дырэктара школы Шкляева за 1957 год. Ён віншуе настаўнікаў, вучняў з 95-й гадавінай школы. Жадае ўсяго найлепшага і перамогі камунізму на зямлі.

*Аддзел інфамацыі.*

## Адным абзацам

У адлаведнасці з рашэннем Праўлення Нацыянальнага Банка, унесена змяненне ў Палажэнне аб фондзе абароны ўкладаў і дэпазітаў фізічных асоб у камерцыйных банках рэспублікі. Згодна з яго новай рэдакцыяй, падлягае вяртанню агульны аб'ём сродкаў грамадзяніна, што захоўваецца ў адным банку, незалежна ад колькасці і відаў укладаў, дадзенай асобы, у гранічным памеры, устаноўленым Нацыянальным банкам. На сёння ён складае 2000 долараў ЗША ў эквіваленце.

З 3 студзеня 1997 года перастаў існаваць валютны калідор з максімальным значэннем курсу амерыканскага долара ў 21000 руб. З гэтага часу дзейнічае адзіны абменны курс— 22050 руб. за адзін долар. Банкам дазволена адхіляцца ад яго пры пакупцы-продажу валюты не больш, чым на 1,5%. Таксама ўзроўнем у 1% абмяжавны памер збіраемых банкамі пры дылінгавых аперацыях камісій.

У рэшце ў Мінску будзе пяцізоркавы гатэль, які б адпавядаў еўрапейскаму ўзроўню. Падрадчык праекта— французская фірма. 12-павярховы будынак разлічаны на 200 нумароў плошчай у 34 квадратныя метры кожны. У гатэлі будуць два рэстараны, бар, зала здароўя, басейн, бізнес-зала. Пры будаўніцтве мяркуецца выкарыстаць 35% мясцовых будматэрыялаў.

Эпідэмія неплацяжоў пакуль яшчэ не захапіла нашу рэспубліку, але сімптомы гэтага ўжо ёсць. Самае прыкметнае, што сярод даўжнікоў— не толькі прадпрыемствы Беларусі і блізкага замежжа. Амаль што трэць мільёна долараў не заплаціла Аршанскаму льнокамбінату за льняныя тканіны фірма з ЗША. Аршанцы былі вымушаны звярнуцца ў вышэйшы гаспадарчы суд краіны, але адказчык пералічыў толькі 50 тысяч долараў. Праблема вяртання астатняй часткі застаецца нявырашанай.



## Разборкі

# Асаблівасці нацыянальнага палявання

***СМАРГОНЬ. Канфлікт у паляўнічай гаспадарцы запацягнуўся. А напярэдадні справаздачна-выбарчай канферэнцыі яшчэ больш абвастрыўся. Паляўнічыя (былыя) пакуль не высвятляюць адносіны са зброяй, а перастрэльваюцца паперамі ў розныя інстанцыі. Але і ў такім баі ёсць ахвяры "актыўнага адпачынку"— менавіта так вызначаецца галоўны напрамак дзейнасці грамадскай арганізацыі. Аўтару давялося выслухаць думкі супрацьлеглых бакоў— былога старшыні гарадской пярвічкі Станіслава Паланевіча, яго намесніка Мікалая Сліжа, былога паляўнічага Уладзіміра Хвалько, дырэктара паляўнічай гаспадаркі Станіслава Тамашэўскага.***

**Канфлікт першы. 1994 г.**

**Былыя паляўнічыя:** Тамашэўскі загадаў адстрэліць прамысловага дзіка. Ліцэнзія выпісана на лясніцага (дзяржаўная пасада) Паланевіча. А той паехаў у санаторый. Пазней дырэктар прызнаўся: "Я павінен быў нагадаць наконт ліцэнзіі, але ўсё ж такі не абавязаны." Замест дзіка застрэлілі памочніка лясніцага Сяргея Рака. За 250 метраў куля трапіла ў грудзі. Стралаў, як потым высветлілася, механік аднаго з заводаў, інвалід II групы. Крымінальнай адказнасці пазбегнуў. Як ні парадаксальна, менавіта забіты ў адсутнасць свайго начальніка даў дазвол на адстрэл і павінен быў сачыць за выкананнем правілаў палявання.

Крайніх знайшлі адразу і пакаралі. Выключылі з арганізацыі Хвалько, члена прэзідыўма райсавета Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў, які ўдзельнічаў у паляванні і "недагледзеў". Сам Тамашэўскі не толькі застаўся на пасадзе, але актыўна пачаў шукаць крымінал у гарадской пярвічцы, бо яна адкрыта выступіла ў абарону сваіх выключаных сяброў.

**С. Тамашэўскі:** Спісы брыгады паляўнічых зацвярджае прэзідыўм. Афіцыйна ў брыгаду не ўваходзіў ні Рак, ні яшчэ сем чалавек, якія выйшлі на паляванне ў той дзень. Хвалько гэта ведаў. Ліцэнзіі я не выпісваю. Каб пакарадзілі афарміць дакументальна паляванне— зрабілі б.

**Канфлікт другі. 1996 г.**

**Былыя паляўнічыя:** Мы мелі ліцэнзію на адстрэл дзіка і казулі. Казулю забілі, ліцэнзію на яе закрылі. Гэта праверыла міліцыя, спыніўшы паляўнічых на дарозе ў горад. Але чамусьці Тамашэўскі палічыў факт здабычы ўтоеным. Старшыню гарадской арганізацыі, яго намесніка выключылі з паляўнічых. Хаця ведучы інжынер паляўнічтавазнавец Уладзімір Лях правёў службовае расследаванне і парушэнняў не знайшоў.

**С. Тамашэўскі:** Казулю забілі. А нам, правяраючым, сказалі адваротнае. Ліцэнзію запоўнілі на наступны дзень, калі мы распачалі расследаванне. Бо ў той ліцэнзіі не было подпісу брыгадзіра— ведалі, што едуць правяраць і не змаглі яго знайсці. Так, пазаведамасная ахова спыніла паляўнічых, правяраць наяўнасць ліцэнзіі. Але міліцыя не ведае, што глядзець у ёй, як яна на самой справе запаўняецца. Адстрэл без ліцэнзіі— браканьерства. Пакаралі справядліва.

***Аўтар не выступае суддзёй у канфлікце. Спадзяемся, што справаздачна-выбарчая канферэнцыя расстаўць усе кропкі над "і", прыцішыць канфлікт людзей са зброяй.***

*Васіль САВІЦКІ.*



 



Сведчаць дакументы

# ХРОНІКА ЗЛАЧЫНСТВАЎ 1939-1941

*Працяг. Пачатак у №№28-34,37,39-41,43-51 за 1996 г.,№№1-4 за 1997 г.*

## Спіс асуджаных у Асобай Нарадзе на 25-е снежня 1940 г. па УНКУС Вілейскай вобласці.

853. Мажанскі Уладзіслаў Франц.– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
854. Міхалоўскі Яфрэм Ільіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
855. Мішковіч-Адамовіч Фама– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Карабас
856. Моніт Канстанцін Пракоп.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– невядома
857. Марціноўскі Канстанцін А.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
858. Мятла Аляксандр Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– невядома
859. Маркевіч Раман Андрэевіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
860. Мелаш Іван Міхайлав.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
861. Мартусевіч Станіслаў Пятр.– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
862. Майк Фелікс Юззфавіч– 29. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
863. Прозвішча выкраслена.
864. Матусевіч Даніла Іосіф.– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
865. Муял Ян-Фелікс Янавіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
866. Мартынкін Адам Восіпав.– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
867. Мацневіч Міхаіл Міхайлав.– 23. 7. 40 г.–5 год ВТЛ– ст. Котлас
868. Мішута Ілля– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Колас
869. Могут Іван Міхайлав.– 30. 7. 40– 5 год ВТЛ– ст. Марыінск
870. Мацкевіч Баляслаў Гіляр.– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
871. Матусевіч Вячаслаў Ільіч– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
872. Мацук Мікалай Мікалаевіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
873. Мацюсовіч Казімір Пятровіч– 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
874. Малько Інгацій Сцяпанав.– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
875. Мацур Альберт Баляславав.– 24. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– Севжелдорлаг
876. Міхайлоўскі Юльян Віктар.– 27. 7. 40 г.– 8 од ВТЛ– ст. Котлас
877. Малец Фердынант Фомічав.– 22. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
878. Мажэйка Павел Канстанцін.– 29. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
879. Міхальскі Казімір Максім.– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
880. Мінайла Аляксандр Іван.– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
881. Маркоўскі Казімір Казімір.– 27. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
882. Мольскі Вацлаў Рафаілав.– 22. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
883. Морзель Ісак-Герш Лейбавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
884. Мікольскі Борух Міхайлав.– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
885. Манес Мойша Шлёмавіч– 23.. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст Котлас
886. Мілевіч Альберт Канстант.– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
887. Машкела Юза Форнкаўна– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
888. Малеўская Часлава Вітольд. 23. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
889. Магун Самуіл Тонішавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
890. Мордас Вацлаў Людвігав.– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
891. Магрын Іван Восіпавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
892. Мацкевіч Мар'ян Аляксандрав.– 27 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
893. Міцкевіч Восіп Пятровіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
894. Марцюнкас Юльян Усцінав.– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
895. Мамзелеў Рыгор Рыгорав.– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
896. Маціеўскі Станіслаў Юззф.– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
897. Маціеўскі Браніслаў Антонав.– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
898. Мацкевіч Канстанцін Франц.– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
899. Мілаш Казімір Восіпавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
900. Мінц Герш Маісеевіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
901. Місюн Казімір Самуйлавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
902. Мордас Баляслаў Юзавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
903. Міцько Уладзімір Міхайлавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
904. Майшак Эдвард Карлавіч– 13. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
905. Медніцкі Рувіч Самуйлав.– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Енісей
906. Мацанаў Валяр'ян Ігнатав.– 13. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
907. Міхаевіч Рамуальд Антонав.– 9. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
908. Мургін-Штэрн Хаім Шлём.– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
909. Міхеева Палагея Фёдараўна– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
910. Мацецянец Ядвіга Антонаўна– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
911. Мажэйка Сафія Вікенцьеўна– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Марыінск
912. Міцкевіч Ядвіга Янаўна– 9. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Марыінск
913. Міцкевіч Леанардзія Антонаўна– 6. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Марыінск
914. Мялешка Алена Міхайлаўна– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
915. Мельхіёр Вячаслаў Эльянав.– 9. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
916. Матора Іван Мікалаевіч– 19. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
917. Міцкевіч Антон Іванавіч– 6. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Архангельск
918. Масевіч Міхаіл Ігнатавіч– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Безымянка
919. Мажайка Валянціна Восіпаўна– 17. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
920. Махневіч Мар'яна Станіславаўна– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Поцьма
921. Міхайлаў Меркіян Трафім.– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
922. Марцінкевіч Мар'яна Міхайлаўна– 10. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
923. Маліноўскі Казімір Юзавіч– 6. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
924. Макаревіч Вікенцій Восіпавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
925. Маткоўскі Станіслаў Юзав.– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
926. Меткоўскі Вільгельм Аляксандр.– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
927. Міклашэвіч Людвіг Людвігавіч– 23. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
928. Мацуткевіч Юззф Франц.– 6. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Архангельск
929. Мардуховіч Мошар-Бенуян Ізр.– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
930. Мітко Стэфан Трыфанавіч– 30. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Енісей
931. Менцік Казімір Антонавіч– 13. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
932. Міхалоўскі Яфрэм Ільіч– 26. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
933. Маркоўскі Карл Антонавіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
934. Міхловіч Леў Міхайлавіч– 21. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
935. Матоўскі Віктар Уладзіслав.– 11. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
936. Мацкевіч Альбін Францавіч– 26. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
937. Марыевіч Марыя Пятроўна– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
938. Мушавец Пётр Нікіфіравіч– 10. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Безымянка
939. Мацорскі Іосіф Леанардавіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
940. Міхаленка Пётр Васільевіч– 27. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
941. Машкавяк Ігнацій Ігнатавіч– 17. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
942. Міндлін Лейб Лейзеравіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст.Котлас
943. Марценка Мечыслаў Сильвестравіч– 10. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– Самарлаг
944. Мацулевіч Войцэх Адамавіч– 10. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Поцьма
945. Мурашка Іван Вацлававіч– 28. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
946. Мангат Пётр Восіпавіч– 30. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Енісей
947. Мароз Восіп Адамавіч– 2. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Салікамск
948. Матошка Іван Мікалаевіч– 26. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Архангельск
949. Мамакс Іпаліт Войцех.– 26. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
950. Наркотус Стэфанія Міхайлаўна– 21. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Поцьма
951. Негдзедовіч Юзеф Феліксавіч– 26. 8. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
952. Нірэс Маісей Ільіч– 6. 8. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск
953. Невіглоўская Алена Станіслав.– 19. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
954. Несякайла Мацвей– 5. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Марыінск
955. Нодак Станіслаў Іванавіч– 30. 7. 40 г.– невядома
956. Несцяровіч Сава Станіславав.– 21. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
957. Неканда-Траска Антон Станіслав.– 5. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Марыінск
958. Някрат Юльян Анешкавіч– 17. 8. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
959. Навіцкі Вячмень Баляслававіч– 6. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
960. Насадовіч Марк Бенедзіктавіч– 30. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Марыінск
961. Навіцкі Лявон Іванавіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
962. Навашэўскі Уладзімір Міхайлавіч– 19. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
963. Нябжыцкі Уладзіслаў Уладзіслававіч– 6. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
964. Несцяровіч Іван Філіпавіч– 30. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Марыінск
965. Новак Стэфанія Міхайлаўна– 30. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Марыінск
966. Наўроцкі Вацлаў Бенядзіктавіч– 23. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
967. Новік Ігнацій Фёдаравіч– 9. 7. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
968. Новак Генрых Іванавіч– 9. 7. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
969. Натальчанкаў Іван Рыгоравіч– 9. 7. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
970. Неверовіч Усевалад Барысавіч– 29. 6. 40 г.– 8 год ВТЛ– ст. Котлас
971. Наўгруцкі Моўша Антонавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Архангельск
972. Навіцкі Адольф Францавіч– 27. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Архангельск
973. Найман Іван Антонавіч– 29. 6. 40 г.– 3 гады ВТЛ– ст. Котлас
974. Нікіцін Рыгор Васільевіч– 27. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Котлас
975. Навасельскі Эдуард Франц.– 20. 6. 40 г.– 5 год ВТЛ– ст. Архангельск

*Працяг будзе.*

Мазаіка рэгіёна

## Мінулагодні сухастой замест руж

***МАЛАДЗЕЧНА.** У зялёна-паркавай гаспадарцы ВА "Камунальнік" кветак зімовай парой не знайсці.*

— Нявыгадна іх вырошчваць,— тлумачыць начальнік гаспадаркі Алёна Бурда,— на гэта патрэбны вялікія затраты электраэнергіі і паліва, якія нам не па кішэні. Капрызным раслінам патрэбны ўмовы: вільгаць, светлавы дзень не менш за 16 гадзін і адпаведны тэмпературны рэжым.

На плошчы ў 460 квадратных метраў закрытага грунту, што ацяпляецца ў марозы, цягнуцца да святла папаратнікі і плюшчы для распродажу. Але ж і гэтага ніхто з гараджан не бачыць, таму што магазін "Кветкі" даўно не працуе.

Азеляніцелі кожнае лета нарыхтоўваюць сухацветы ды сухастой, з якіх прызвычаіліся выраблядь сувеніры. Побач з імі— лазовыя кошыкі, кашпо, пано з элементамі фларыстыкі.

Кветкі да нас вязуць, у асноўным, з Польшчы. Неўзабаве ж і ў цяпліцах прыватнікаў зацвітуць ружы ды гваздзікі.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Малако з ...

***ВАЛОЖЫН.** З вядомых постчарнобыльскіх часоў у работнікаў ветэрынарнай службы з'явіўся такі напрамак работы, як барацьба з лейкозам.*

746 калгасных кароў Валожыншчыны летась далі станоўчыя пробы. Гэта значыць, што яны, калі і не хворыя яшчэ на небяспечную хваробу, то з'яўляюцца носьбітамі віруса. Менш за палавіну малочна-таварных фермаў зараз "чыстыя" ад лейкозу.

Станоўчыя пробы крыві сустракаюцца і ў рагуль прыватнага сектара. Шлях пазбаўлення ад хворых кароў адзін— здача на мясакамбінат. Для беднаватых гаспадарак асноўная праблема пасля здачы— знайсці замену забітай жывёліне. Часта не могуць рашыцца пусціць пад нож карову-карміліцу і прыватнікі. Па дадзеных ветслужбы раёна, 78 жывёлін-вірусаносьбітаў жывуць і частуюць малаком. Магчыма, не толькі сваіх гаспадароў.

*Тацяна ШАБЛЫКА.*

## Грошы ёсць, але дзетак бракуе

***АСТРАВЕЦ.** Любога наведвальніка дзіцячага садка №3— ад маленькіх хлопчыкаў і дзяўчынак да іх бацькоў- сустракаюць цяпло і ўтульнасць пакояў, афармленыя з густам стэнды, і, галоўнае, шчырыя і сардэчныя работнікі. Яго загадчыца Людміла Пратаковіч пазнаёміла з цікавай праблемай.*

— Па нормах у нас можа быць 210 дзяцей,— зазначыла яна.—На самой жа справе маем толькі 9 груп, у якіх знаходзіцца 167 дзетак. За апошнія гады нам давялося скарацідь тры групы, што пацягнула за сабой і скарачэнне выхавальнікаў і іншых супрацоўнікаў. Прычына банальная. Не хапіла дзяцей у садку, куды раней малых упадкоўвалі "па блату".

У сем'ях жа такая праблема ўзнікла не ад добрага жыцця. У кагосьці з бацькоў няма прыстойнага адзення, у іншых нестае грошай на абутак і аплату за садок. Вось і прыходзіцца ім у мэтах эканоміі сямейнага бюджэту пазбаўляць дзетак наведвання "такой краіны". Не мы такія, а жыццё.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Выйграй тэлевізар!

## Наша латарэя без пройгрышу

*Тэлевізар ад "Рэгіянальнай газеты" знойдзе свайго гаспадара ў красавіку— тады мы разыграем яго сярод падпісчыкаў на другі квартал. А пакуль у рэдакцыю паступаюць копіі падпісных абанементаў. Некаторыя з пісьмамі.*

*"Добры дзень, паважаная рэдакцыя "РГ"! Прачытала ў вашай газеце, што будзе розыгрыш "кухоннага" тэлевізара "Верас". Дастаткова падпісацца на вашу газету і даслаць копію квітка. Як бы мне хацелася быць шчаслівўчыкам. Мне ніколі не шанцуе. І вось вырашыла паспрабаваць шчасця ў вас. Што, калі атрымаецца. З нецярпеннем буду чакаць розыгрышу. Да пабачэння. Ваша пастаянная падпісчыца Любоў Занудзенка. Вілейка."*

Любоў Сяргееўна, вы выйграеце абавязкова. І папшанцуе не толькі вам. У любым выпадку нашы падпісчыкі атрымаюць свой выйгрыш— газету. Проста камусьці пашэнціць больш за іншых і ён выйграе тэлевізар.

Жадаем шчасця і ўдачы ўсім!

*Рэдакцыя.*

## А вы бачылі новыя купюры?

*На Беларусі выйшла ў свет новая грашовая купюра. Цяпер гэта 100000 "зайцоў".*

На адным баку гэтай "каштоўнай паперкі" паказаны фрагмент балета па паэмах Я. Купалы "Выбраннікі", а таксама белы квадрат з зялёным малюнкам, які нельга апісаць словамі, і некалькі цікавых узораў. На другім баку зноў прысутнічае гэты белы квадрат, а таксама малюнак Дзяржаўнага акадэмічнага вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, фрагмент ужо традыцыйнага слуцкага пояса і яшчэ некалькі ўзораў. На вадзяным знаку - вывава балерыны, якая замерла ў даволі прыгожай позе. Вядома, дызайн не зусім падыходзіць для банкноты такога ўзроўню і каштоўнасці, таму яе выгляд выклікае ўсмешку, апе ў асноўным новая купюра выканана даволі прыгожа. Хацелася б, каб у кожнага было пабольш гэтых банкнот.

*Ігар ВОЙТКА.*

Не прадыхнуць

## Дапамажыце

***МАЛАДЗЕЧНА.** Пяцімесячная Стэфаніда ўчапілася за мой палец, усміхаецца. Не ведае, з якімі цяжкасцямі сутыкаюцца яе бацькі.*

У яе тры сястрычкі (старэйшай Тацяне 13 год) і дванаццацігадовы брацік Саша. Тата Аляксандр— інвалід І групы, а маці Ірына б'ецца, як рыба аб лёд, каб дагледзець вялікую сям'ю.

Сям'я Герасіменкаў жыве ў аднапакаёвай кватэры з частковымі выгодамі. І калі збіраюцца ўсе (прыязджае яшчэ Вольга, якая вучыцца ў гродзенскай школе-інтэрнаце для сляпых), не толькі не прайсці— не прадыхнуць.

Гаспадару 30 гадоў. Нарадзіўся на Гомельшчыне, адтуль і прыехаў, ратуючыся ад радыяцыі. Але паспеў ёю надыхацца, стаў інвалідам. Тут пазнаёміўся са сваёю Ірынай. На той час яна скасавала шлюб і заставалася адна з чатырма дзяцьмі. З кожным годам здароўе Аляксандра пагаршалася, жыццё ж станавілася ўсё даражэй. Цяпер вось першая група інваліднасці, скарацілі з камбіната надомнай працы. Мільён рублёў— дзяржаўная падтрымка на ўсіх.

— На дробязі мы ўвагу ўжо не звяртаем,— гаворыць гаспадар.— Сапсаваліся тэлевізар, пральная машына. Грошы толькі на жыццё. Хаця б накарміць дзяцей. Аб сабе не кажу. А ўрачы прапісалі дыету. Звяртаюся да ўлад, прадпрымальнікаў, да людзей з добрым сэрцам: дапамажыце.

Адрас Герасіменкаў: вул. Прытыцкага, 6-14. Т. 74881.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Гэта вам не Афрыка

***АШМЯНЫ.** 205 афраазіятаў затрымалі пагранічнікі за мінулы год. Далёкія суседзі імкнуліся без дазволу перасекчы дзяржаўную мяжу.*

А наогул пагранкамендатурай затрымана: за парушэнне пагранічнага рэжыму 234 чалавекі, за парушэнне дзяржаўнай мяжы 396;

кантрабанды на 198 мільёнаў рублёў;

валюты на 31 тысячу долараў ЗША;

халодная зброя 5 адзінак;

газавай зброі 5;

агнястрэльнай 1.

Усе аперацыі пагранічнікамі праводзіліся без выкарыстання зброі.

*Аддзел інфармацыі.*

Пытанне— адказ

## У Маладзечне будуюць

**Звыш за 7 год будуецца гарадскі Палац культуры. Будаўнікі спасылаюцца на недастатковае фінансаванне. Калі і кім будуць выдзелены грошы на заканчэнне гэта будаўніцтва!**

Як растлумачылі ў гарадскім аддзеле культуры, грошы павінны быць выдзелены абласным упраўленнем культуры. Вядома ж, што цяпер прадпрыемствы стаяць і грошай няма нават на выплату заробатнай платы.

**Ці праўда, што каля кінатэатра "Радзіма" будуецца краязнаўчы музей! Што ён будзе сабой уяўляць!**

Кіраўнікі ўстановы інфармацыю пацвердзілі, але удакладнілі, што вядзецца не навабудоўля, а рамонт перададзенага ім памяшкання. Гэта будзе асноўны будынак Мінскага абласнога краязнаўчага музея. Больш падрабязна аб гэтым мы раскажам пазней. На жаль, фінансавыя справы знаходзяцца ў такім жа стане, як і ў выпадку з Палацам культуры, хаця работы і працягваюцца.

*Надзея ЛІСАВА.*

Дзіцячыя юбілеі

## Выпрабаванне "ТЭСТам"

***МАЛАДЗЕЧНА.** Тэатр-студыя "ТэСт" беларускай гімназіі адзначыла дзесяцігоддзе. Гэта адзіны ў РБ узорны тэатральны калектыў у сістэме адукацыі. Першую яго пастаноўку гледачы ўбачылі 26 снежня 1986 года.*

Разам з матэматыкай, гісторыяй ды іншымі прадметамі тэатру належыць важнае месца ў жыцці гімназістаў. Для навучэнцаў 6-х і 7-х класаў створаны дзве тэатральныя студыі. У групе падоўжанага дня— лялечны тэатр. Вучні малодшых класаў з захапленнем наведваюць заняткі пад назваю "тэатральныя гульні".

Намеснік дырэктара гімназіі Т. Бабей, якая нязменна кіруе калектывам, стала пераможцам апошняга абласнога конкурсу "Педагог года".

*Наталля РАБЧАНКА.*

Выхаванцы

## Чэмпіён

***МЯДЗЕЛ.** Свірская сярэдняя школа ганарыцца сваім выхаванцам Сяргеем Плятнёвым.*

Пад кіраўніцтвам трэнера Саўлюса Наркунаса юнак асвоіў вясланне на каноэ. Настаўнік застаўся ў Свіры, а малады спартсмен "прапісаўся" ў Мінску. Паспяхова выступае на міжнародных спаборніцтвах, мае кваліфікацыю майстра спорту міжнароднага класа. Мясцовыя хлапчукі яго называюць проста: чэмпіён.

*Альберт КУМІШЧА.*

